№151 (1964)

Аўторак, 17 жніўня 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

*Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +23...+25, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +24...+26, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +17...+19, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +22...+24, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +23...+25, сонечна, уначы — +14...+16, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +23...+25, уначы — +15...+17, без ападкаў.

*www.meteo.by*



# Ці будуць выбары ў парламент справядлівымі, свабоднымі і празрыстымі?

ПУЛЬС

## Ёсць 4 мільёны тон

Па даных на ўчарашні дзень, у краіне скошана больш як палова збожжавых і зернебабовых культур (без кукурузы). Намалочана 4 мільёны 43 тысячы тон збожжа. Ураджайнасць складае 32,5 цэнтнера з гектара.

Учора ў Савеце міністраў у чарговы раз абмяркоўваліся ход і якасць уборкі ўраджаю. Урад незадаволены тэмпамі жніва, найперш ходам уборкі ячменю і аўсу. Удзельнікі нарады разгледзелі пытанні функцыянавання перасоўных рамонтных службаў, інжынернага і транспартнага забеспячэння ўборачнай кампаніі.

Незадаволенасць урада зразумелая. Задзейнічана не ўся тэхніка. На палях працуе крыху больш за 86 працэнтаў зернеўборачных камбайнаў. Між тым сіноптыкі прадказваюць пагаршэнне надвор'я. Так што хлебаробам варта паспяшацца.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## БХК выказвае глыбокае расчараванне...

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі Хельсінкскі камітэт" (БХК) "глыбока расчаравана фактам узнагароджання Дзмітрыя Паўлічэнкі ордэнам Святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра Рускай праваслаўнай царквы".

У сваёй заяве РГА БХК нагадвае, што 23 лістапада 2000 года Д.Паўлічэнка быў затрыманы і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ Беларусі па падазрэнні ў датычнасці да выкраданняў і фізічнай ліквідацыі грамадзян. Ён быў вызвалены па распараджэнні Аляксандра Лукашэнкі і Віктара Шэймана, тагачаснага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, які таксама падазраецца ў датычнасці да гвалтоўных знікненняў, — нагадвае БХК. — Следства адмовілася разглядаць версію аб датычнасці вышэйшых службовых асоб дзяржавы да выкраданняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага.

"У дадзенай сітуацыі, — падкрэсліваецца ў заяве, — РГА БХК лічыць, што ўзнагароджанне высокай узнагародай аднаго з падазроных ва ўчыненні цяжкага злачынства супярэчыць грамадскай і хрысціянскай маралі".

Нагадаем, што прозвішча Паўлічэнкі фігуруе ў дакладзе, падрыхтаваным спецыяльнай камісіяй Камітэта па юрыдычных пытаннях і правах чалавека Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. У гэтым дакуменце Паўлічэнка названы "падазроным арганізатарам і кіраўніком крымінальнай структуры, якая мае дачыненне да выкрадання і фізічнага знішчэння людзей".

На аснове даклада, прадстаўленага кіпрскім дэпутатам Хрыстасам Пургурыдэсам, ПАСЕ прыняла жорсткую рэзалюцыю, патрабуючы ад беларускіх уладаў арганізаваць незалежнае расследаванне знікненняў палітычных апанентаў прэзідэнта Лукашэнкі.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## Будзе фонд імя Васіля Быкава?

Рашэнне стварыць Міжнародны фонд імя Васіля Быкава прынялі ўдзельнікі пленэра, прысвечанага 80-годдзю пісьменніка.

Гэтая творчая акцыя, арганізаваная Германавіцкім культурна-асветным цэнтрам імя Язэпа Драздовіча (вёска Германавічы, Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці), праводзілася з 5-га да 15 жніўня на радзіме Васіля Быкава, у вёсцы Бычкі Ушацкага раёна.

Фонд ствараецца ў мэтах увекавечання памяці народнага пісьменніка. Ініцыятарам яго стварэння выступілі Цэнтр імя Я.Драздовіча, Беларускі ПЕН-цэнтр, грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ), а таксама грамадскае аб'яднанне "Ветэраны Адраджэння".

Як паведаміла старшыня Цэнтра імя Я.Драздовіча Ада Райчонак, у рамках пленэра больш за 30 беларускіх мастакоў і графікаў працавалі ў Бычках і наваколлях вёскі. Яны стварылі больш за 100 работ. "З незвычайным натхненнем яны пісалі з натуры не толькі цудоўныя пейзажы Ушаччыны, але і партрэты родных, сваякоў і сяброў геніяльнага пісьменніка", — сказала А.Райчонак.

У Бычках адбылася першая выстава па выніках пленэра, якая прыцягнула ўвагу не толькі жыхароў суседніх вёсак. Арганізатары пленэра плануюць прадставіць экспазіцыю ў Мінску, Віцебску, Полацку і Празе.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Палітолаг Л.Радзіхоўскі: стратэгічна «брацкая інтэграцыя» не патрэбная ні Лукашэнку, ні Пуціну

Гэтак званая "брацкая інтэграцыя" заўсёды была "чыстым блефам". "Апрача палітычнай гульні, за ёю ніколі нічога не стаяла", — так пракаменціраваў карэспандэнту БелаПАН новыя фармулёўкі беларускай знешнепалітычнай дактрыны папулярны расійскі палітолаг і публіцыст Леанід Радзіхоўскі.

Размова ідзе аб ліпеньскім дакладзе Аляксандра Лукашэнкі на нарадзе з кіраўнікамі беларускіх дыпламатычных місій за мяжой. Тады кіраўнік дзяржавы даў устаноўку як мінімум аслабіць энергетычную, сыравінную і экспартную залежнасць ад Расіі. Ён таксама падкрэсліў непахіснасць суверэнітэту Беларусі і прызнаў, што "рэсурс некаторых элементаў існуючай канструкцыі" беларуска-расійскага саюза "відаць, вычарпаў сябе".

Шэраг незалежных аналітыкаў кваліфікавалі гэтае выступленне як фактычнае "пахаванне" саюзнага праекта.

На думку Леаніда Радзіхоўскага, "без інтэграцыйных зігзагаў яшчэ не абыдзецца. Напрыклад, калі гэтага патрабуе перадвыбарная кан'юнктура. Калі тавар карыстаецца попытам, чаму б і не выкінуць яго на палітычны рынак? Але стратэгічна гэтая ідэя не патрэбная ні Пуціну, ні Лукашэнку".

Перспектыву двухбаковых стасункаў маскоўскі палітолаг бачыць так: "Пуцін наўрад ці пойдзе на трэці тэрмін, усё ж перарабляць канстытуцыю не ў яго духу. Але калі ён забяспечыць пераемнасць улады (што не зусім відавочна) і калі Лукашэнка застанецца на трэці тэрмін (што больш відавочна), то, хутчэй за ўсё, паміж Расіяй і Беларуссю будуць у цэлым дастаткова стабільныя, нармальныя стасункі. Перш за ўсё — на эканамічнай аснове. Без заклінанняў аб інтэграцыі".

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ.**

## Газавая «бомба» запаволенага дзеяння

Вогненную пастку стварыла для сямейнай пары віцебскіх пенсіянераў уцечка газу са зношанай пліты, якая размяшчалася ў летняй прыбудове да прыватнага дома на ўскраіне абласнога цэнтра.

Пліта ўжо даўно патрабавала замены, але мізэрных пенсій гаспадарам на такі дарагі набытак не хапала, і старыя спадзяваліся, што ўсё абыдзецца добра. Аднак надзеі на лепшае не спраўдзіліся. Газ пакрысе выходзіў праз няшчыльную канфорку, і калі аднойчы ноччу дзядуля, устаўшы, уключыў лямпачку ў памяшканні, дзе знаходзілася пліта, адбылася дэтанацыя газапаветранай сумесі. Дашчаная прыбудова ўспыхнула, як папера.

Гаспадары спрабавалі прабіцца да дзвярэй, але перад людзьмі вырасла вогненная сцяна.

Сіл на тое, каб вярнуцца з летняй кухні ў хату і вылезці праз акно, нямоглым старым не хапіла, і яны атруціліся дымам і загінулі яшчэ да таго, як прыехалі выкліканыя суседзямі пажарныя.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Курсы замежных валют

*На 17 жніўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

| | |
|---|---|
| 1 долар ЗША — 2161,00 рубель | 1 малдаўскі лей — 180,91 |
| 1 еўра — 2666,89 | 1 нарвежская крона — 321,96 |
| 1 аўстралійскі долар — 1549,55 | 1 польскі злоты — 599,40 |
| 1 балгарскі леў — 1363,67 | 1 расійскі рубель — 73,95 |
| 1 дацкая крона — 358,58 | 1 сінгапурскі долар — 1258,37 |
| 1 СДР — 3163,10 | 10,000 турэцкіх лір — 14,81 |
| 1 ісландская крона — 30,63 | 1 украінская грыўна — 406,89 |
| 10 японскіх іен — 195,07 | 1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3978,18 |
| 1 казахскі тэнге — 15,92 | 1 чэшская крона — 84,75 |
| 1 канадскі долар — 1648,17 | 1 шведская крона — 288,85 |
| 1 кувейцкі дынар — 7330,14 | 1 швейцарскі франк — 1738,61 |
| 1 кыргызскі сом — 51,58 | 1 эстонская крона — 170,47 |
| 1 латвійскі лат — 4021,21 | |
| 1 літоўскі літ — 772,46 | |

ВЫБАРЫ

## Зінаіда Бандарэнка вырашыла ісці ў дэпутаты

***Аднак акруговая камісія Смаргоні адмовіла Народнай артыстцы Беларусі ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы***

Падставай для такага рашэння стаў той факт, што адзін з членаў ініцыятыўнай групы Бандарэнка псіхічна хворы чалавек, пазбаўлены судом права галасавання. А таксама таму, што тры чалавекі ў самы апошні момант адмовіліся збіраць подпісы за Бандарэнка і напісалі адпаведныя заявы.

*— Вядома, ціск з боку мясцовай улады на тых, хто быў гатовы ісці па кватэрах і збіраць за мяне подпісы, вёўся вялікі,* — распавяла **Зінаіда БАНДАРЭНКА**. — *Настаўніцу мясцовай школы, якая жыве ў інтэрнаце, выклікалі і сказалі, што, калі яна не адмовіцца выйсці з ініцыятыўнай групы, яе пазбавяць пакоя ў інтэрнаце.*

*Але ж і мая каманда сама крыху вінаватая ў тым, што адбылося. У яе склад увайшло 55 чалавек, і я не магла праверыць літаральна кожнага. Тым не менш мы напісалі скаргу ў Цэнтрвыбаркам, таму што ўсё роўна ў нас застаецца магчымасць пачаць збор подпісаў.*

Канчатковы адказ з Цэнтральнай выбарчай камісіі Зінаіда Бандарэнка павінна атрымаць ужо сёння.

Зінаіда Аляксандраўна кажа, што невыпадкова вырашыла балатавацца ў дэпутаты ў Смаргоні. Магла б, вядома, паспрабаваць выйграць выбары па адной з выбарчых акруг Мінска, дзе яна прапісана. Але тады б ёй прыйшлося сапернічаць з Уладзімірам Парфяновічам. А паколькі такіх мужных людзей у сённяшняй Беларусі няшмат, кажа Бандарэнка, яна не захацела складаць яму канкурэнцыю.

У Смаргоні былую тэлевядучую добра ведаюць. *"Неаднойчы,* — узгадвае народная артыстка Беларусі, — *смаргонцы прыязджалі да мяне на тэлебачанне, пісалі цёплыя лісты, падтрымлівалі, калі мне прыйшлося звольніцца з Белтэлерадыёкампаніі".* Апошнім часам Бандарэнка часта наведвае Смаргонь, і, як адзначае сама, ёй прыемна ведаць, што простыя людзі па-ранейшаму памятаюць яе.

Бандарэнка магла б стаць саперніцай **Таццяне Голубевай** — зараз дэпутату Палаты прадстаўнікоў, якая некалі выбіралася ў Віцебскай акрузе. А цяпер, кажуць, не рызыкнула там балатавацца. У Смаргоні Голубева 10 гадоў таму кіравала сілікатным заводам, была яго генеральным дырэктарам. *"Калі яна прыехала ў Смаргонь, стала адразу зразумела, што ўсё будзе рабіцца пад яе,* — кажа Зінаіда Бандарэнка. — *Кіраўніку маёй ініцыятыўнай групы Тадэвушу Картавіку амаль афіцыйна было сказана: "Ну і нарабілі вы тут шуму з Зінаідай Аляксандраўнай. Уладам трэба будзе як след папрацаваць, каб людзі прагаласавалі за Голубеву".*

Народ любіць Зінаіду Бандарэнка, а вось улады...

Як вядома, акрамя вылучэння праз збор подпісаў выбаршчыкаў існуюць яшчэ дзве магчымасці абірацца ў Палату прадстаўнікоў. Можна балатавацца ад палітычных партый ці ад працоўных калектываў. Што тычыцца калектываў, то тут перспектывы ў Зінаіды Бандарэнка невялікія. Вопыт папярэдніх выбараў паказвае, што дзяржаўныя прадпрыемствы, як правіла, вылучаюць кандыдатаў з так званага ўрадавага спісу. Трапіць у яго Народная артыстка Беларусі, вядомая сваім стаўленнем да існуючай улады, наўрад ці зможа.

Зінаіда Бандарэнка сваю пазіцыю выказала яшчэ напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. Тады з'явілася перадвыбарная ўлётка "Час выбіраць" з партрэтам Зінаіды Бандарэнка і яе словамі "Спрадвеку беларусы лічацца лагоднымі, добразычлівымі і цярплівымі. Прыходзіць хамская ўлада, а мы ўсё церпім... І вось — нам даецца шанц!". Пасля прэзідэнцкіх выбараў Бандарэнка ўвайшла ў склад грамадскай ініцыятывы "За новую Беларусь!", стала сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Шостага верасня, згодна з Выбарчым кодэксам, заканчваецца вылучэнне кандыдатаў ад партый і працоўных калектываў. І тады стануць вядомыя імёны ўсіх, хто паспрачаецца за дэпутацкае крэсла.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## З адкрытым лістом да старшыні аблвыканкама

Кіраўнікі магілёўскіх арганізацый чатырох палітычных партый — Партыі БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Партыі камуністаў Беларускай і Аб'яднанай грамадзянскай партыі — звярнуліся з адкрытым лістом да старшыні аблвыканкама Барыса Батуры. Падставай для звароту стала несправядлівае, на думку аўтараў дакумента, фарміраванне акруговых выбарчых камісій у Магілёўскай вобласці.

Палітыкі адзначаюць, што выбарчае заканадаўства пры фарміраванні выбарчых камісій аддае прыярытэт членам палітычных партый. "Аднак у Магілёўскай вобласці нашы прадстаўнікі не ўключаны ў склад акруговых выбарчых камісій. Дакументы на ўключэнне нашых прадстаўнікоў у склад камісій мы прадставілі раней за ўсіх. Гэта можна праверыць па кнізе рэгістрацыі. У большасці ўтвораных акруговых камісій адсутнічаюць прадстаўнікі не толькі нашых партый, але і іншых партый Беларусі, а ў склад акруговай выбарчай камісіі Магілёўскай Прамысловай выбарчай акругі № 74 не ўключаны ніводны прадстаўнік палітычнай партыі або грамадскага аб'яднання", — гаворыцца ў лісце.

Аўтары ліста абураны тым, што "ў самым пачатку выбарчай кампаніі ўлады вобласці не робяць захадаў, каб выбары былі справядлівымі, свабоднымі і празрыстымі".

Акрамя таго, палітыкі звяртаюць увагу Б.Батуры на парушэнні, што дапускаюцца пры фарміраванні ўчастковых выбарчых камісій. "Склады ўчастковых выбарчых камісій, як правіла, фарміруюцца з ліку работнікаў адной арганізацыі. Старшынёй камісіі прызначаецца кіраўнік гэтай жа арганізацыі або яго намеснік. Старшыні камісій, атрымаўшы ўказанне ад "вертыкалі", з-за страху згубіць працу ідуць на парушэнні закона і прымушаюць гэта рабіць сваіх падначаленых", — гаворыцца ў лісце.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Перадвыбарны марафон скончыўся на старце,

### альбо Чаму не зарэгістравалі ініцыятыўную групу Валерыя Леванеўскага

*Нагадаем, што лідэр прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі ўжо некалькі месяцаў утрымліваецца ў следчым ізалятары гродзенскай турмы № 1. Апальнаму бізнесмену інкрымінуецца артыкул 368, ч.2 — "...публічная знявага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", максімальна прадугледжаны тэрмін — тры гады пазбаўлення волі.*

Мяркуючы па ўсім, турэмнае жыццё Леванеўскага не зламала, а падштурхнула да яшчэ больш актыўнай палітычнай дзейнасці: ён наважыўся балатавацца ў дэпутаты ППНС. І, паколькі Леванеўскі не вязень, а падследны, яго вылучэнне ў дэпутаты Выбарчаму кодэксу не супярэчыць.

Напрыканцы мінулага тыдня Валерыю Станіслававічу было адмоўлена ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы. Афіцыйная фармулёўка: маўляў, дакументы ў акруговую выбарчую камісію былі прадстаўлены не асабіста кандыдатам у дэпутаты, а яго сынам. *"І гэта нягледзячы на тое, што спачатку ў акруговай выбарчай камісіі Гродзенскай-Паўночнай выбарчай акругі № 53 мне паведамілі, што прыняць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы могуць і без прысутнасці бацькі,* — распавядае "Народнай волі" сын Леванеўскага Уладзімір. — *Галоўнае, каб былі афіцыйна засведчаны подпіс і даверанасць кандыдата. І, паколькі я з'яўляюся яго сынам, а таксама кіраўніком ініцыятыўнай групы, ніякіх прэтэнзій да такога варыянту яны не бачаць".*

Уладзімір зазначае: пра гэта яму сказалі і дзяжурны выбарчай камісіі той акругі, дзе збіраецца балатавацца бацька, і кансультант арганізацыйна-прававога аддзела Цэнтрвыбаркама Васіль Багачоў. *"Нам так і не ўдалося засведчыць даверанасць у кіраўніцтва турмы,* — паведамляе Уладзімір. — *У начальнікаў раптам узніклі "нечаканыя справы", розныя нагоды і прычыны. А адвакату бацькі адкрытым тэкстам сказалі: даверанасць вы не атрымаеце, хоць увесь дзень тут стойце. Таму папера ў выбарчую камісію трапіла без подпісаў турэмных начальнікаў".*

Праз некалькі дзён Уладзімір Леванеўскі атрымаў адказ ад Гродзенскай-Паўночнай выбарчай акругі № 53: у рэгістрацыі ініцыятыўнай групы адмовіць у сувязі з невыкананнем артыкула 65 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь — спіс членаў групы не быў прадстаўлены асобай, што вылучаецца ў дэпутаты. *"Няўпэўненасць была з самага пачатку,* — кажа Уладзімір Леванеўскі, — *па-першае, вельмі дзіўна ў размовах са мной паводзілі сябе некаторыя члены выбарчай камісіі: кудысьці ўвесь час тэлефанавалі, спасылаліся на тое, што па нашым пытанні "трэба параіцца" і гэтак далей. Я хацеў папрасіць следчага Танкевіча, каб бацьку дазволілі хаця б на пяць хвілін пад канвоем наведаць акруговую выбарчую камісію і асабіста перадаць заяву аб рэгістрацыі групы. Але следчы нават не захацеў мяне выслухаць". Мяркую, усё прадумана загадзя: здымаць непажаданых кандыдатаў яшчэ на пачатку дыстанцыі",* — зрабіў выснову сын прадпрымальніка. Уладзімір Леванеўскі накіраваў у Цэнтрвыбаркам скаргу на рашэнне акруговай выбарчай камісіі.

Дарэчы, адмову ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы атрымаў і Аляксандр Васільеў, намеснік Валерыя Станіслававіча. Прычына — няправільна афармленыя дакументы.

**Міраслава МІРАНОВІЧ.**

## 10 парушэнняў

*З пачатку сёлетняй выбарчай кампаніі грамадзянская ініцыятыва "Партнёрства" зарэгістравала ў Гомельскай вобласці 10 парушэнняў. Пра гэта паведаміў прадстаўнік "Партнёрства" ў Гомелі Святаслаў Шаламаў.*

Паводле яго інфармацыі, у раённых выданнях ужо пачалася агітацыя, што пакуль забаронена законам. У асноўным такія матэрыялы размяшчаюць цяперашнія дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Адзначаны факт незаконнага распаўсюджвання ўлётак. Акрамя таго, грамадзянская ініцыятыва атрымала тры адмовы на просьбу аб уключэнні яе прадстаўнікоў у члены акруговых камісій.

Паводле слоў С.Шаламава, усе звесткі аб выяўленых парушэннях будуць перададзены ў абласную выбарчую камісію.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

СУД

## Генерал Фралоў супраць Сяргея Атрошчанкі

*Уласна кажучы, гісторыя пачалася яшчэ 15 жніўня 2003 года, калі ў штотыднёвіку "Обозреватель" (шэф-рэдактарам якой з'яўляецца небезвядомы прадпрымальнік С. Атрошчанка) быў надрукаваны артыкул журналісткі Ганны Мураўскай* ***"Депутаты Костян, Новосяд и Фролов — личностные антисемиты?"*** *У публікацыі, якая нарабіла столькі шуму, са спасылкай на словы старшыні Саюза яўрэйскіх арганізацый і суполак Беларусі Леаніда Левіна, сцвярджалася, што дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Навасяд і Фралоў прапагандуюць асобасны антысемітызм, "причем, исповедуют они нелюбовь к евреям везде, где бы ни находились".*

Для Леаніда Левіна артыкул стаў вялікім "сюрпрызам": ён ніколі не лічыў дэпутатаў Фралова і Навасяда антысемітамі, наадварот, можа прывесці шмат прыкладаў, калі і адзін парламентарый, і другі аказвалі дапамогу Саюзу яўрэйскіх арганізацый і суполак Беларусі. Левін заўпэўнівае: вышэйзгаданыя словы былі яму прыпісаны журналісткай Мураўскай. *"Я не только не говорил этих слов, но и не мог подумать поставить рядом с фамилией Костяна людей, которые никогда и нигде не проявляли признаков антисемитизма, — Новосяда и Фролова... Никогда и нигде я не причислял этих людей к антисемитам",* — паведамляў Левін у лісце да газеты "Обозреватель" адразу пасля з'яўлення артыкула Г.Мураўскай. Рэдакцыя ж друкаваць абвяржэнне адмовілася.

Больш таго, ТАА "Альянс-Медыя" звярнулася ў суд з іскам да "Народнай волі", якая ўзяла пад абарону такога сусветнавядомага чалавека, як лаўрэат Ленінскай прэміі, адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу "Хатынь" Леанід Левін. Чытачы ведаюць, колькі цягнулася і чым закончылася (пакуль!) гэтая судовая эпапея. Дэпутат Фралоў быў на тысячу працэнтаў упэўнены, што наш "самы справядлівы і гуманны суд у свеце" справядліва падыдзе да разгляду справы, абароніць гонар не толькі Леаніда Мендзелеевіча Левіна, але і яго, Фралова, паколькі ён лічыць сябе сябрам яўрэйскага народа, а не антысемітам. Менавіта зыходзячы з гэтага ён і не спяшаўся падаваць іск у суд на шэф-рэдактара штотыднёвіка "Обозреватель" С.Атрошчанку. А калі спадзяванні на тое, што "кропкі над "і" будуць аб'ектыўна расстаўлены без яго ўмяшальніцтва канчаткова згубіліся, калі ён убачыў, што ні рэдакцыя "Обозревателя", ні яе кіраўніцтва і не думаюць прасіць у яго прабачэння, ён прыняў цвёрдае рашэнне: трэба самому звяртацца ў суд.

Дэпутат Фралоў падаў іск аб абароне гонару і годнасці, у ролі адказчыка ён вызначыў шэф-рэдактара штотыднёвіка "Обозреватель" Сяргея Атрошчанку. Дарэчы, з іскам таксама цэлая гісторыя — справу на разгляд у судзе Маскоўскага раёна сталіцы прынялі не адразу. Сказалі: трэба звяртацца ў суд іншага раёна. Там генерала Фралова таксама адфутболілі. І толькі пасля таго як ён быў вымушаны паскардзіцца кіраўніцтву Мінскага гарадскога суда, у Маскоўскім судзе г. Мінска яго іск да разгляду прынялі.

*"Данные сведения не соответствуют действительности,* — зазначае Валерый Фралоў у сваёй іскавай заяве. — *Об этом свидетельствует сам Л.М. Левин, в уста которого корреспондент газеты "Обозреватель" вложила обвинения депутатов Новосяда и Фролова в антисемитизме... Сведения, изложенные в статье "Депутаты Костян, Новосяд и Фролов — личностные антисемиты?", опровергаются и нашей общественной и профессиональной деятельностью",* — падсумоўвае Валерый Дзмітрыевіч.

Ісцец Фралоў патрабуе абвергнуць напісанае. А канкрэтна тое, што *дэпутат Фралоў выспавядае асобасны антысемітызм; дэпутат Фралоў прапаведуе нелюбоў да яўрэяў усюды, дзе б ні знаходзіўся.* Акрамя таго, спагнаць з рэдакцыі газеты "Обозреватель" (ТАА "Альянс-Медыя") у якасці кампенсацыі маральнага ўрону 100 мільёнаў рублёў. *"Калі суд задаволіць патрабаванне наконт грашовай выплаты, планую дапамагчы дзіцячаму рэабілітацыйнаму цэнтру, што ў Масюкоўшчыне, і рэдакцыі "Народнай волі" — адзінай газеце, якая не пабаялася выступіць у маю абарону",* — кажа Фралоў.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

ПУЛЬС

## У Брэсце адкрылася незвычайная выстава

У фае брэсцкага кінавідэацэнтра “1 мая” адкрылася незвычайная выстава — наведвальнікі могуць убачыць больш за тры дзесяткі работ, выкананых у тэхніцы ручной вышыўкі. Аўтарам экспазіцыі з’яўляецца Ала Гобша.

У інтэрв’ю БелаПАН яна паведаміла, што цыкл работ пад назвай “Перад вобразам тваім” стаў вынікам яе амаль 30-гадовай працы. “У кожнай карціне я імкнулася паказаць складанасць характару жанчыны, яе душэўную прыгажосць, слабасць і сілу. Любоў да прыроды, мастацтва, прыгажосць мацярынства — усё гэта таксама знайшло адлюстраванне на маіх палотнах”, — сказала майстар.

Ручная вышыўка — вельмі працаёмкі і скрупулёзны працэс. Напрыклад, на вышыўку аднаго толькі вобразу Джаконды Ала Гобша затраціла амаль пяць месяцаў.

## Атрымаў прызнанне ў Расіі

На выставе, прысвечанай 70-годдзю Маскоўскага завочнага Народнага універсітэта мастацтваў, карціна “Шлях” мастака Васіля Юшкаўца з горада Іванава Брэсцкай вобласці адзначана дыпломам І ступені. Як расказаў БелаПАН сам дыпламант, у выставе бралі ўдзел выпускнікі гэтай навучальнай установы — мастакі розных пакаленняў з усіх краін СНД. Усяго ў славутай “Народнай галерэі” на Марасейцы было выстаўлена больш за 200 работ. Тым больш прыемна было беларускаму мастаку атрымаць дыплом Дзяржаўнага расійскага Дома народнай творчасці.

Паводле слоў Васіля Юшкаўца, не менш каштоўнай стала для яго і другая ўзнагарода, атрыманая на выставе ў Маскве. Гэта — своеасаблівы прыз сімпатый гледачоў, грамата за найбольшую колькасць станоўчых водгукаў. Граматай мастак быў удастоены за сваю другую работу — “Іаан-Хрысціцель”. Кампетэнтнае журы і звычайныя наведвальнікі адзначалі своеасаблівую манеру работы жывапісца з Беларусі, сінтэз сюррэалізму і рэалізму.

Акрамя ўзнагарод, Васіль Юшкавец атрымаў прапановы паказаць свае карціны і на іншых выставах, якія пройдуць у Маскве і Маскоўскай вобласці.

Цяпер Васіль Юшкавец працуе над карцінамі, якія ўвойдуць у яго новую экспазіцыю, прысвечаную Палессю.

## Арыштавана за хабарніцтва

У Брэсце пад варту ўзята 62-гадовая жанчына, якая займала высокую пасаду ў адным з брэсцкіх дзяржаўных каледжаў.

Падставай для затрымання стала хабарніцтва. Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, праведзеных супрацоўнікамі падраздзяленняў па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС і РАУС Ленінскага раёна Брэста, устаноўлена, што супрацоўніца каледжа за хабар у 300 долараў ЗША гарантавала паступленне ў гэтую навучальную ўстанову адной з абітурыентак.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Пад заваламі гаража

Два падлеткі пацярпелі пры абвальванні жалезабетонных пліт перакрыцця ў гаражы, што належыць сельскагаспадарчаму вытворчаму кааператыву імя Леніна Клічаўскага раёна (Магілёўская вобласць).

Надзвычайнае здарэнне адбылося каля шостай гадзіны вечара ў вёсцы Усохі ў гаражы, які ўжо доўгі час не эксплуатаваўся. Падчас абвальвання чатырох пліт перакрыцця ўнутры знаходзіліся браты-падлеткі — 10 і 13 гадоў. Абодва яны апынуліся прыціснутымі фрагментамі жалезабетонных канструкцый. Ратавальнікі з дапамогай спецабсталявання вызвалілі з-пад завалаў пацярпелых, якія былі дастаўлены ў раённую бальніцу.

У падлеткаў пашкоджаны ў асноўным ногі. Стан старэйшага з братоў медыкі ацэньваюць як цяжкі, малодшага — сярэдняй ступені цяжкасці.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

*Люка БАРБОНЕ:*

# Белорусская экономика крайне уязвима

*Интервью с директором Всемирного банка по Беларуси, Украине и Молдове специально для “Белорусских новостей” провела Ольга БИРЮКОВА*

**— Г-н Барбоне, недавно Вы заявили, что в сентябре начнутся переговоры с белорусским правительством о перспективах его отношений со Всемирным банком. Можно ли уточнить возможные направления будущего сотрудничества?**

— В рамках действующей программы помощи Беларуси эксперты Всемирного банка вели подготовку крупного кредитного проекта, направленного на преодоление последствий чернобыльской аварии. В том числе и на поддержку белорусских регионов, пострадавших от радиационного загрязнения. Я считаю, что это очень хорошая программа.

Но после того как правительство отказалось от реализации кредитного проекта в сфере здравоохранения, направленного, в частности, на борьбу с туберкулезом, мы остановили работу.

Как я уже говорил, сейчас Всемирный банк ведет оценку действующей стратегии для Беларуси (country assistance strategy), и в начале сентября мы планируем представить свои предложения белорусскому правительству. Если мы достигнем взаимопонимания, то следующим шагом может стать “размораживание” чернобыльского проекта. Это приемлемо. О других планах пока говорить слишком рано.

**— Как Вы оцениваете нынешнее состояние белорусской экономики?**

— Считаю, что она крайне уязвима. В основе фундаментального дисбаланса лежит необоснованное повышение зарплат. Ни одна страна мира не может позволить себе в течение двух лет практически удвоить реальную заработную плату без серьезных последствий для экономики. Это невозможно.

**— То же самое Вы говорили и в начале 2001 года, но системного кризиса в Беларуси пока все же не произошло.**



— Я всегда очень осторожен в прогнозах сроков возможного кризиса. И, по сути, я ведь не предсказываю коллапс. А лишь констатирую, что положение дел в белорусской экономике стало еще хуже.

Три года назад средняя заработная плата в Беларуси была 80 USD. Сейчас вы ставите задачу поднять ее до 175 USD, а затем и до 200 USD *(ныне, в свете указаний президента, белорусское правительство ориентировано на показатель в 185—195 долларов к концу 2004 года и на 250 долларов — год спустя. —* **Ред.***)*.

Три года назад обменный курс белорусского рубля по отношению к доллару и российскому рублю устанавливался исходя из рыночной конъюнктуры, а сегодня, он, по сути, фиксирован.

Не претендую на роль Кассандры, но я серьезно обеспокоен ситуацией. Кстати, в вашем случае весьма полезным мог бы оказаться пример экономического развития Китая.

**— Что Вы имеете в виду?**

— Ваши власти ставят перед собой те же задачи, что и власти Китая — поддерживать крупные предприятия, чтобы обеспечить лояльность их сотрудников к действующему политическому режиму. Но ведь при этом в Китае разрешен частный сектор, активно развивается мелкий и средний бизнес, создана благоприятная среда для привлечения иностранных инвестиций, реализуется земельная реформа.

Там знают, как воспользоваться выгодами приватизации, не уходя при этом со старого политического пути.

Любая рациональная система должна развиваться в рамках стратегии. Я родился, учусь, затем поступаю на работу — это моя личная жизненная стратегия. Каков генеральный план развития Беларуси? Я его не вижу. Нельзя считать стратегией необоснованные планы повышения заработной платы и роста ВВП...

**— Если уж разговор зашел о росте ВВП, доверяете ли Вы данным официальной белорусской статистики?**

— Мой ответ — нет. Белорусская статистика не использует стандарты международной финансовой отчетности. Я думаю, если бы расчеты велись по международным стандартам, то реальный рост ВВП Беларуси был бы на 1—2 процентных пункта ниже.

**— Белорусская экономика по-прежнему сильно зависит от российской. Считаете ли Вы серьезными недавние события на российском финансовом поле (закрытие нескольких банков, кризис банковской ликвидности). Могут ли они привести к системному кризису?**

— Я так не думаю. Ситуация в России сейчас намного стабильнее, чем была в 1998 году. Все макроэкономические показатели очень хороши. Ничто не предвещает резкого падения национальной валюты и невозможности оплаты внешних счетов.

## Споведзь кінарэжысёра

У Мінску прайшла прэзентацыя кнігі “Міхаіл Пташук”, напісаная яго ўдавой Ліліяй Пташук.

Гэтая кніга разам з прэзентаваным некалькі месяцаў таму выданнем “Нота лёсу”, прысвечаным народнаму артысту СССР, мастацкаму кіраўніку ансамбля “Песняры” Уладзіміру Мулявіну, “адкрые серыю кніг ”Жыццё выдатных людзей Беларусі".

Кніга “Міхаіл Пташук” складаецца з чатырох раздзелаў: споведзь кінарэжысёра, сцэнарый мастацкага фільма “Анёлахоўнік”, публікацыі і ўспаміны. У кнігу ўвайшлі ўспаміны аб дзяцінстве, юнацтве, розных перыядах творчага жыцця, напісаныя як самім рэжысёрам, так і блізкімі, сябрамі і калегамі. У ліку апошніх — Мікіта Міхалкоў, Міхаіл Ульянаў, Георгій Данелія, Станіслаў Гаварухін, Іван Шамякін, Уладзімір Гасцюхін, Пётр Вельямінаў, Генадзь Гарбук, Аляксей Пятрэнка і многія іншыя вядомыя дзеячы культуры.

Кніга выйшла накладам 2 тысячы асобнікаў, але, магчыма, будзе дадаткова выдадзена ў Расіі. Плануецца, што выданне аб вядомым рэжысёры будзе прадстаўлена на 17-м Міжнародным маскоўскім кірмашы ў верасні.

Міхаіл Пташук трагічна загінуў 26 красавіка 2002 года ў аўтакатастрофе ў Маскве, куды прыехаў для ўдзелу ў цырымоніі ўручэння нацыянальнай кінематаграфічнай прэміі Расіі “Ніка”. Сярод намінантаў на прэмію быў яго фільм “У жніўні 44-га...”.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## За краты — на чвэрць стагоддзя

Да максімальнага тэрміну пазбаўлення волі — 25 год — прыгаварыў Віцебскі абласны суд былога жыхара пасёлка Арэхаўск Аршанскага раёна, 49-гадовага Анатоля Пустыльнікава. Параўнаўча нядаўна, у лютым бягучага года, ён быў умоўна-датэрмінова выпушчаны з турмы пасля адбыцця пакарання за наўмыснае забойства. Выпускаць яго было не варта, бо не прайшло і месяца, як ён зноў узяўся за старое. Знаходзячыся ў бацькоўскім доме, Анатоль шматлікімі ўдарамі нажа забіў свайго старэйшага брата, а затым — і ягоную жонку. Суд палічыў, што далейшае знаходжанне Пустыльнікава на волі будзе небяспечным для грамадства і вызначыў яму такі тэрмін знаходжання за кратамі, пасля якога забойца-рэцыдывіст калі і дажыве да вызвалення, дык стане нямоглым старым.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Что лучше: свое, но дороже, или импортное, но дешевле?

*В соответствии с Законом Республики Беларусь “О мерах по защите экономических интересов Республики Беларусь при осуществлении внешней торговли товарами”, Министерство иностранных дел страны начало расследование, предшествующее введению специальных защитных мер в отношении импорта на таможенную территорию Республики Беларусь мяса птицы. Об этом сообщается на сайте данного министерства.*

Расследование проводится на основании заявления Министерства сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь. Данные, приведенные в нем, позволяют констатировать факт возросшего импорта и свидетельствуют о наличии угрозы причинения существенного ущерба отрасли белорусской экономики.

Объем импорта товара за 12 месяцев 2003 года составил 20,4 тыс. тонн на сумму 16,51 млн. долларов США и увеличился на 42,7 процента от объема импорта за 12 месяцев 2001 года, в том числе объем импорта товара из стран Европейского Союза (с учетом присоединившихся стран) составил 12,87 тыс. тонн на сумму 9,95 млн. долларов и увеличился на 68,2 процента. Одновременно доля импортного товара на белорусском рынке выросла с 21,2 процента в 2001 году до 27,6 процента в 2003 году. Доля стран Европейского Союза в общем объеме импорта товара составляет 63 процента.

Несмотря на введение временных ставок таможенных пошлин в размере 70 процентов на ввозимые на территорию Республики Беларусь отдельные виды мяса птицы (Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 4.07.2003 г. № 904), общий объем импорта товара продолжает увеличиваться. При росте внутреннего потребления на внутреннем рынке на 9,3 процента, объем производства в отрасли белорусской экономики вырос только на 2,2 процента. Численность персонала в отрасли сократилась по сравнению с 2001 годом на 3,8 тысячи человек. Рост объемов импорта стал возможен в связи с низкими ценами на импортируемый товар. Темп роста цен отечественных производителей по сравнению с 2001 годом составил 131,6 процента, цена на импортный товар за указанный период упала по сравнению с 2001 годом (темп роста -99,5 процента). Вследствие импорта дешевого мяса птицы аналогичный товар отечественного производства становится неконкурентоспособным.

Почему сложилось такое положение? И какое мясо лучше: свое, но дороже, или импортное, но дешевле?



**Подготовил к печати Евгений ТАВГЕНЬ.**
**Фото photo.bymedia.net**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Новые слухи о референдуме: утечка или «слив»?

**Сергей ПУЛЬША**

Стоило одному зубастому интернет-ресурсу опубликовать сведения о том, что, по их информации, вскоре будет объявлен референдум, как эта тема получила неожиданное и фактическое продолжение. Наблюдатели гражданской инициативы “Партнерство” зафиксировали создание “подпольных” избирательных комиссий.

Как сообщает пресс-служба “Партнерства”, *“за последнюю неделю из разных регионов в организацию поступила почти одинаковая информация: кроме официальных, созданных согласно законодательству окружных избирательных комиссий, по косвенным данным сформированы комиссии нелегальные”*. В частности, в избирательных округах, объединяющих несколько административных районов, *“эти комиссии созданы в районных центрах, которые не имеют официальной окружной комиссии”*. На эти комиссии, согласно информации “Партнерства”, *“возложены обязанности координации избирательного процесса в районе, сбора итоговых протоколов с избирательных участков, размещенных на территории района”*.

*“Несмотря на то что Избирательный кодекс не предусматривает создания областных избирательных комиссий на выборах в парламент, по нашим данным, такие комиссии также созданы. Согласно законодательству (статья 31 Избирательного кодекса) вышеуказанные областные и районные комиссии необходимы для проведения референдума”*, — констатирует “Партнерство”.

Впрочем, это заявление общественной инициативы белорусский Центризбирком не смутило. В частности, его секретарь **Николай ЛОЗОВИК** в интервью агентству БелаПАН назвал заявление “Партнерства” “ахинеей”. По его словам, в соответствии с белорусским законодательством *“на государственные органы возложены некоторые функции по материальному и организационному обеспечению выборов”*. *“И если где-то властями создаются комиссии, которые содействуют окружным комиссиям, это можно только приветствовать. Но в деятельность окружных избирательных комиссий они не вмешиваются и не имеют на это права”*, — сказал Николай Лозовик.

Однако... Во-первых, появление информации о подготовке референдума из двух независимых друг от друга источников в одно и то же время не может не настораживать. Во-вторых, зачем все-таки создавать отдельные комиссии для обеспечения избирательного процесса, если, по словам Николая Лозовика, эти функции и так возложены “на государственные органы”?

Политолог **Сергей ПАНЬКОВСКИЙ** сомневается в том, что сейчас мы являемся свидетелями подготовки к референдуму. *“В принципе, подходящий момент для объявления референдума упущен, уже слишком поздно что-то переигрывать,* — говорит эксперт. *— Но и исключить возможность того, что референдум все-таки будет объявлен, я не могу. Просто потому, что никаких других сценариев возможного продления полномочий президента уже не озвучивается. Однако, если плебисцит все-таки будет хотя бы заявлен, это сразу же переведет политическую жизнь страны в другую плоскость”*.

По мнению Сергея Паньковского, вероятный третий срок президента будет означать его пожизненное правление, а это ни к чему хорошему не приведет. *“Вопросы, которые перед Беларусью ставит Европа, во время третьего срока не только не исчезнут, но и обострятся. У политически активной части населения страны появится потребность искать какие-то новые формы высказывания своих взглядов. Общество станет более активным. Да и сама возможность референдума ставит Беларусь в негативный политический и нравственный контекст. Минусов от референдума больше, чем плюсов”*, — говорит политолог.

Политолог **Андрей СУЗДАЛЬЦЕВ** вообще исключает возможность проведения референдума этой осенью. *“Уж слишком много информационных ”сливов" пошло в последние дни. Если действительно создается “подпольный обком”, то о его создании должны знать не наблюдатели, а один-два человека, которые в свое время позвонят остальным и скажут: “Будь там и там, есть работа”. И работа пойдет тихо, без объявления войны"*, — говорит Андрей Суздальцев.

По мнению политолога, такие слухи нужны для того, чтобы держать в напряжении номенклатуру. *“Не исключено, конечно, что президент может объявить референдум, к примеру, на открытии очередной сессии старого парламента 2 октября,* — говорит эксперт. *— Но у него не закрыты тылы — не решены вопросы с Москвой. А если номенклатура поймет, что глава государства не в силах удержать ситуацию и продлить свои полномочия, она просто разбежится в разные стороны. Ведь иного политического будущего, кроме как при Лукашенко, у нее нет. Таким образом, ”сливая" информацию о референдуме, власть просто блефует — создает впечатление силы и устойчивости"*.

Лидер Объединенной гражданской партии **Анатолий ЛЕБЕДЬКО** видит в возможном совмещении референдума и парламентских выборов даже плюсы. *“Во-первых, еще два года назад все демократические политические партии подписали соглашение о создании общей большой коалиции в случае объявления референдума по изменению Конституции. Будет он или нет, но мы к нему готовы. Во-вторых, совмещение выборов и референдума в чем-то даже полезно: это резко поляризует избирательную кампанию и делит кандидатов в депутаты на тех, кто за плебисцит, и тех, кто против него. Это только поможет людям разобраться, кто за что выступает на самом деле. Так что сейчас — это палка о двух концах”*, — говорит политик.

*(“Белорусские новости”.)*

ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ

## Не па кішэні

Паводле праверак, праведзеных пракуратурамі гарадоў і раёнаў Віцебскай вобласці, запазычанасць насельніцтва рэгіёну па аплаце камунальных паслуг у маі перавысіла 7 мільярдаў рублёў, ці 42 працэнты ад налічанай сумы.

Колькасць даўжнікоў склала 37.382 чалавекі, прычым у сельскай мясцовасці неплацельшчыкаў значна менш, чым у гарадах.

Зарэгістравана 18 іскаў аб перасяленні даўжнікоў у меншыя памерамі жылыя памяшканні. У задавальненні чатырох з гэтых іскаў адмоўлена ў сувязі з адсутнасцю памяшканняў для перасялення.

Супрацоўнікі пракуратуры таксама выявілі шэраг парушэнняў з боку камунальных службаў. Напрыклад, адзначаны выпадкі, калі перавышаліся тарыфы за ацяпленне, парушаліся правілы давання льгот па аплаце паслуг. Устаноўлены і парушэнні пры выкарыстанні сродкаў, што адлічваюцца на капітальны рамонт жылога фонду. Гэтыя сродкі расходаваліся не па мэтавым прызначэнні — на іх закуплялі гаруча-змазачныя матэрыялы, выплачвалася зарплата, праводзіліся рамонты і экспертызы праектаў.

Пракурор Віцебскай вобласці выдаў дакумент аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства пры разліках за жыллёва-камунальныя паслугі.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Канфіскавана 1620 літраў спірту

1620 літраў спіртаўтрымліваючай вадкасці на суму 5 млн. рублёў было знойдзена супрацоўнікамі аператыўна-пошукавага аддзела УУС у адным з дамоў вёскі Кавердзякі Брэсцкага раёна.

Дакументаў, якія б пацвярджалі легальнасць увозу высокаградуснай алкагольнай сыравіны на тэрыторыю Беларусі, у 34-гадовага непрацуючага мужчыны, мяркуемага гаспадара тавару, не аказалася. Па гэтым факце складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, а вадкасць канфіскавана.

З пачатку года ў Брэсцкай вобласці міліцыя канфіскавала больш за 40 тон спірту і алкагольных вырабаў на суму амаль 110 млн. рублёў.

## Патанулі ў вадаёмах

Спіс тапельцаў у Брэсцкай вобласці папоўніўся дзвюма трагедыямі — у Пружанскім і Брэсцкім раёнах.

Раніцай у вадаёме Калядзічы загінуў 15-гадовы падлетак, жыхар вёскі Ляхі Пружанскага раёна, а вечарам у рацэ Лясная, ля вёскі Высокі Брэсцкага раёна, патанула дзесяцігадовая дзяўчынка, якая жыла ў суседняй вёсцы Чарнаўчыцы. Усяго гэтым летам у вадаёмах Брэсцкай вобласці патанулі 51 чалавек. Асноўнымі прычынамі гібелі людзей па-ранейшаму застаюцца бесклапотнасць, купанне ў неўстаноўленых месцах і парушэнне правіл паводзінаў на вадзе.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# Што паказаў фестываль «Навагрудскі замак»?

Для ўдзелу ў ІІІ фестывалі сярэднявечнай культуры “Навагрудскі замак”, які праходзіў у Навагрудку 14—15 жніўня, прыехалі каля 500 чалавек, якія прадстаўляюць больш як 50 рыцарскіх клубаў. Пра гэта паведаміў журналістам намеснік старшыні аргкамітэта фестывалю, кіраўнік грамадскай арганізацыі “Сярэднявечная ліга Беларусі” Ігар Міхно.

Паводле яго слоў, *“рыцарскія клубы ў Беларусі з’яўляюцца, як грыбы пасля дажджу”*. Цяпер у беларускім рыцарскім руху задзейнічаны да 4 тысяч чалавек. Актыўнаму развіццю рыцарскага руху, на думку І.Міхно, садзейнічае цікавасць беларусаў да сваёй гісторыі.

У Навагрудку і надалей будуць праводзіцца рыцарскія фестывалі, заявіў журналістам старшыня Навагрудскага райвыканкама **Анатоль Ліс**.

*“Такія знакавыя мерапрыемствы, як рыцарскі фэст, праводзяцца дзеля таго, каб людзі маглі прыгожа і з карысцю адпачыць, а моладзь — далучыцца да гісторыі, акунуцца ў сярэднявечную эпоху, якую горад гэтымі днямі спрабуе адлюстраваць”*, — сказаў А.Ліс.

У перспектыве ў горадзе плануецца пабудаваць сучасную гасцініцу, магчыма, з удзелам замежнага капіталу. У прыватнасці, зараз гарадское кіраўніцтва разглядае прапанову брытанскіх інвестараў аб будаўніцтве гатэля на 80 месцаў.



**Лавінія АРЭШКА.**
**Фота photo.bymedia.net**

ЦЕНА ЗНАНИЙ

# За тетрадями — на «Экспобел»!

Конец лета — самая пора закупать школьные принадлежности, ведь ближе к первому сентября к прилавкам магазинов трудно будет подступиться. “Школьные базары” уже работают, и значит, можно смело идти выбирать тетрадки и рюкзаки. Для детей это увлекательное занятие, а вот для родителей чаще всего — головная боль. После летних отпусков подготовка к школе пробивает порой весьма солидную дыру в семейном бюджете. Я решила помочь родителям в поисках недорогих и качественных школьных товаров.

Начала с рынка “Экспобел”. Там традиционно низкие цены на канцтовары, а к началу учебного года начинают продавать недорого и общие тетради. Хотя рынок в основном оптовый, но торгуют там и в розницу, выбор большой. Несмотря на то, что карандаши, фломастеры, маркеры и гелевые ручки имеют чаще всего китайское происхождение, качество остается на высоте.

“Нам невыгодно продавать плохую продукцию, там более что торгуем мы не только в розницу, но и оптом, — говорит **Анна Касперович,** продавец, — конкуренция слишком высока, и мы заботимся о том, чтобы не потерять покупателя”. Цены на рынке ниже, чем в магазинах. Набор фломастеров из 12 штук стоит от 1000 до 2300 рублей. Рисуют хорошо, опробовали. Набор разноцветных гелевых ручек из 6 штук — 2300, из 10 штук — 3600 рублей. Шариковые ручки — от 100 до 900 рублей, яркие, с игрушками, словом, на любой вкус. Среди общих тетрадей пальму первенства делят тетради белорусских и российских производителей. Белорусская тетрадь в 40 листов стоит 380—450 рублей, 48 листов — 570, российская в 48 листов — 700 рублей, 96 листов — 900 рублей. Еще на рынке дешевле, чем в магазинах, можно купить гуашь и пластилин, в среднем за 2500 и 700 рублей.

Следующая остановка — Торговый дом на Немиге. Из школьной одежды приглянулись рубашки с галстучками для школьников младших классов по цене 8300—9150 рублей. Пиджак с сорочкой обойдется в 30.000 рублей, брюки — 22.800. Обычные тетрадки в 12 листов стоят от 105 до 215 рублей, в 48 листов — 1200, а также разные общие тетради — 800, 1800, 2130 и 3550 рублей.

Школьные ранцы по городу стоят примерно одинаково — от 15.000 до 35.000 рублей.

“Школьный базар” в ГУМе запомнился более демократичными ценами и наличием разрекламированной серии общих тетрадей с портретами белорусских спортсменов на обложке. Тетрадки красивые, бумага белая, 96 листов — 1160 рублей.

В ГУМе, ЦУМе и Торговом доме на Немиге канцелярские товары не дешевые по причине качества. Все они от немецких, французских, итальянских производителей, что сказывается на стоимости. Белорусских ручек и фломастеров я не нашла, а увиденный пенал со злобными покемонами явно не стоил тех пяти тысяч, что за него просили.

Кстати, в Торговом доме на Немиге я взяла листовку с перечнем школьно-письменных товаров, необходимых первокласснику. Путем несложных подсчетов удалось установить, что на все нужные вещи в среднем уйдет около 60.000 рублей! Сюда входят ранец, тетради, пенал, принадлежности для труда и рисования, математический набор, карандаши, ручки, фломастеры и многое другое. А ведь еще ребенка для школы нужно одеть и обуть, приобрести спортивную форму... Вот и получается, что на то, чтобы снарядить первоклассника в школу, нужно потратить среднюю месячную заработную плату...

**Анастасия БАСОВА.**

